


№ 9 верасень 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**Ігнараваць мову - гэта значыць ігнараваць народ, нацыю.**

*Піліп Пестрак*

## *У НУМАРЫ:*



# НАШЫ НАВІНЫ

***

5 верасня ў памяшканні дзіцячай бібліятэкі ў Паставах прайшла прэзентацыя курсаў беларускай мовы і гісторыі края. На ёй выступілі І. Пракаповіч, В. Шышко, Л. Сяменас, Т. Захарэвіч, А. Латыш, А. Цыркуноў.

***

5 верасня споўнілася 70 год з дня нараджэння пастаўскага краязнаўцы Уладзіміра Магільніцкага. Яго радзіма - вёска Вайшкуны, што на Лынтупшчыне. У.Магільніцкі закончыў Лынтупскую школу, гістарычны факультэт БДУ. Ён аўтар кніг "Природа Поставского края" і "Мая вёсачка Вайшкуны". Зараз жыве ў Паставах.

Таварыства беларускай мовы зычыць юбіляру моцнага здароўя, натхнення і добрага плёну ў дзейнасці на ніве краязнаўства.

***

12 верасня адбыліся першыя заняткі курсаў беларускай мовы і гісторыі края. Моўная гадзіна была прысвечана тэме "Характэрныя асаблівасці беларускага вымаўлення". Вяла яе Аліна Латыш, настаўніца беларускай мовы СШ № 3. Краязнаўчыя матэрыялы прэзентавалі Вадзім Шышко і Людміла Сяменас.

***

У чацвер, 19 верасня адбыліся другія заняткі моўна-краязнаўчых курсаў. Цікавы матэрыялы пра націскі ў беларускай мове прапанавала настаўніца беларускай мовы СШ №2 Тамара Захарэвіч. На занятках прысутнічаў начальнік аддзела адукацыі, спорта і турызма райвыканкама Аляксандр Кашырын, які ў сваім выступленні агучыў ідэю перавыдаць з дапаўненнямі і ўдакладненнямі ў каляровым афармленні і цвёрдай вокладцы кнігу І. Пракаповіча "Чароўны край – Пастаўшчына".

***

Краязнаўцы і сябры пастаўскай суполкі Таварыства беларускай мовы ў межах агульнанацыянальнай кампаніі "Зробім лепш-2013" 20 верасня здзейснілі аўтавандроўку ў заходнюю частку Пастаўшчыны на Лынтупшчыну для таго, каб сустрэцца з мясцовымі жыхарамі – старажыламі і краязнаўцамі, і сабраць матэрыялы па гісторыі і культуры знікаючых вёсак і хутароў. Удзельнік паездкі пабывалі ў Палессі і Лынтупах, дзе выступілі перад настаўнікамі і вучнямі.

***

Увечары, 26 верасня, аматары беларускай мовы і краязнаўства сабраліся на чарговыя заняткі курсаў. На гэты раз моўную гадзіну праводзіла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ніна Субач. Яна вучыла слухачоў курсаў правільнаму ўжыванню беларускіх словазлучэнняў.

Краязнаўчую гадзіну праводзіў настаўнік геаграфіі Ігар Пракаповіч. Ён распавёў прысутным пра геаграфічнае становішча Пастаўшчыны, гісторыю фарміравання тэрыторыі, рух ледавікоў і асаблівасці рэльефа і клімата.

***

27 верасня краязнаўцы і сябры пастаўскай суполкі ТБМ у межах агульнанацыянальнай кампаніі "Зробім лепш-2013" здзейснілі аўтавандроўку ў паўночную і ўсходнюю частку Пастаўшчыны. На гэты раз яны наведалі базавыя школы ў вёсках Андроны і Навадруцк (Парыж). Удзельнікі паездкі выступілі перад вучнямі і настаўнікамі гэтых школ з прэзентацыяй пра краязнаўцаў і краязнаўчыя выданні, прадэманстравалі некалькі відэаролікаў пра беларускую мову, расказалі пра дзейнасць ТБМ. Сустрэчы прайшлі ў вельмі цёплай сяброўскай атмасферы.

***

У пастаўскім раённым аддзеле адукацыі, спорта і турызма створана ініцыятыўная група па падрыхтоўцы да перавыдання дапаможніка па краязнаўстве для школ раёна «Чароўны край - Пастаўшчына», аўтарам якой з"яўляецца Ігар Пракаповіч. Кнігу плануецца выдаць у цвёрдай вокладцы з каляровымі ілюстрацыямі і дадаткам - дыскам DVD з прэзентацыямі да кожнай тэмы. Зараз пачаўся збор ахвяраванняў на яе выданне.

**Шыпшына** на сайтах kamunikat.org і westki.info

**Вадзім Шышко**

# ФІЗІЯЛОГІЯ НАЦЫЯНАЛІЗМУ

(Працяг. Пачатак у №8/2013)

Калі мы ўвогуле адмовімся ад нацыяналізму, то гэта прывядзе да таго, што ў выніку мы згубім арэал свайго пражываньня, сваю мову, сваю нацыянальную самаідэнтычнасьць. І пасьля гэтага зьнікненьне нашага этнасу – гэта толькі пытаньне часу. Каб гэта не здавалася нечым далёкім, то трэба заўважыць, што гэты працэс ужо йдзе. Арэал свайго распаўсюджваньня мы ў значнай ступені згубілі (Беласток, Вільня, Дзьвінск, Смаленск). Нашая мова таксама балансуе на мяжы зьнікненьня. І як вынік частага негатыўнага ўздзеяньня звонку і памылковай унутранай палітыкі, нашая нацыянальная самаідэнтычнасьць таксама знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні. Як доказ – фенаменальная абыякавасьць пераважнай большасьці беларускага насельніцтва да лёсу сваёй краіны. Ня трэба будзе надта зьдзіўляцца, калі пры спробе інкарпарацыі нашай дзяржавы якой-небудзь іншай, беларускае насельніцтва ў сваёй большасьці прапусьціць гэтую падзею міма сябе – абы асабіста яго не чапалі.

Спосабы зьнішчэньня этнасу могуць быць рознымі: фізічны, духоўны і камбінаваны. Духоўны спосаб зьнішчэньня беларускага этнасу збольшага выкарыстоўвалі палякі, у выглядзе паланізацыі. Спачатку спантанай паланізацыі, у 18 ст., а пасьля мэтанакіраванай у міжваенны час 20-га ст. Фізічны спосаб зьнішчэньня нашага этнасу выкарыстоўвалі спатнанным чынам расейцы, падчас 13-гадовай вайны ў 17 ст., і мэтанакіравана немцы, падчас 2-й Сусьветнай вайны. Камбінавана, фізічна-духоўна, беларускі этнас зьнішчалі нашыя расейскія суседзі ў 19 і асабліва ў 20 стст.

Усе гэтыя намаганьні – рэгулярнае фізічнае зьнішчэньне інтэлектуальнай эліты і найбольш вытворчых чалавечых рэсурсаў, каланіяльны культурны ціск на мясцовую культуру з адначасовым насаджэньнем сваёй – далі свой плён. У выніку зь беларускага этнасу так і ня здолела стварыцца нацыя. Паводле Бенедыкта Андэрсана гістарычна самымі маладымі нацыямі сталі в'етнамцы і камбаджыйцы. Але ў нас ёсьць усе шансы абыйсьці іх па маладосьці. Праўда, толькі ў тым выпадку, калі мы ўсё ж такі здолеем стаць нацыяй. Бо ў сёньняшняй гістарычнай сітуацыі гэта досыць складана. У сувязі з тым, што цяперашняя каланіяльная экспансія магутных дзяржаў ідзе па больш вытанчанай схеме, чым ранейшая прымітыўная ўзброеная інтэрвенцыя. У сёньняшнім высокатэхналагічным сьвеце, каб падпарадкаваць сабе суседнюю, слабейшую краіну, дастаткова зрабіць яе эканамічна залежнай. Калі ўдасца гэта зрабіць, то, выкарыстоўваючы эканамічныя механізмы лёгка перацягваць да сябе мясцовую інтэлектуальную эліту (т. зв. "выпампоўка мазгоў"). Такім чынам этнас эканамічна залежнай дзяржавы застаецца без таго жыцьцёва неабходнага слоя інтэлігенцыі, які духоўна можа абгрунтаваць і зафіксаваць народжаную нацыю.

У сваю ж чаргу дзяржавы-каланізатары, зноў-такі, выкарыстоўваючы эканамічныя механізмы, пачынаюць актыўна экспартаваць у свае эканамічна залежныя калоніі сваю культуру. Пры гэтым, пры канкурэнцыі культур, у масавую сьвядомасьць насаджваецца прынцып, што менавіта тая культура найбольш вартая, у якую ўкладзена больш грошай. (Як прыклад, знакамітая поп-музыка, якая пры мінімальных мастацкіх і духоўных якасьцях становіцца "шэдэўрам" у сучасным грамадзтве. Менавіта з-за таго, што яе кошт штучным чынам узьняты неверагодна высока дзякуючы пануючым у нашым жыцьці мас-медыя.)

Адпаведна, калі эканамічна залежная краіна ня можа ўкласьці ў сваю культуру столькі грошай, значыць і яе культура з'яўляецца непаўнавартаснай. Пры гэтым на яе фактычную духоўна-мастацкую каштоўнасьць адмыслова ніхто не зьвяртае ўвагі. І няма нікога, хто мог бы даказаць зваротнае, бо амаль ўся мясцовая этнічная інтэлігенцыя ўжо эмігравала ў багацейшыя краіны. Далей наступае лагічная разьвязка. Простае насельніцтва эканамічна залежнай краіны, ня маючы дастатковай альтэрнатывы з боку сваёй этнічнай культуры, паступова пачынае выкарыстоўваць тую культуру, якую ім экспартуе разам са сваімі таварамі пануючая над іх краінай эканамічна-фінансавая метраполія. Паступова пераймаюцца, чужыя звычкі, сьвяты, паводзіны, творы мастацтва, мова. А чужая мова, як ужо была зазначана ў ранейшым артыкуле, праз семантычныя ланцужкі (ужо на фізіялагічным узроўні!!!) стварае чужы менталітэт. І так ціха, спакойна, без усякай

страляніны, эканамічна залежны этнас ператвараецца ў той, ад якога ён залежыць. А дзяржаўныя межы на палітычнай мапе толькі на гэтай мапе і застаюцца.

Адзінае, што некаторы час здольна яшчэ адрозьніваць этнас ад іншых – генэтыка. Але адна яна сама па сабе ня здольная нешта зьмяніць, бо пры моцным культурным і эканамічным узьдзеяньні людзі хутка перастаюць зьвяртаць на яе ўвагу. Найлепшы прыклад – ЗША, дзе людзі самых розных этнасаў сьвядома лічаць сябе самымі сапраўднымі амерыканцамі, поўнасьцю ігнаруючы тое, якое генэтычнае паходжаньне яны маюць. І менавіта ЗША сталі першай імперыяй новага тыпу, якая пачала падпарадкоўваць астатнія краіны ня толькі зброяй, але і эканамічна, паступова павялічваючы ў сваіх эканамічных калоніях свой культурны ўплыў, і тым самым робіць мясцовае насельніцтва падобным на сябе. Зразумела, што ў такім выпадку каланіяльнаму народу спадзявацца на з'яўленьне сваёй нацыі на базе мясцовага этнасу не выпадае. Па такому ж шляху эканамічнай экспансіі паспрабавалі пайсьці іншыя еўрапейскія краіны, але ў сілу розных прычын дасягнуць такіх посьпехаў як ЗША яны ня здолелі.

Адзіная краіна, якая на сёньняшні дзень можа скласьці канкурэнцыю ЗША ў стварэньні эканамічна-культурнай імперыі – гэта Расея. Спачатку Расея пачала складвацца як звычайная класічная імперыя, заваёўваючы свае новыя каланіяльныя ўладаньні зброяй. Але 20 стагодзьдзе ўнесла свае карэктывы – са з'яўленьнем зброі масавага паражэньня грубая заваёўніцкая палітыка стала небясьпечнай для саміх агрэсараў. Трэба было шукаць новыя метады. Таму, пасьля таго як Расейская імперыя скончыла свой эксперымент з пабудаваньнем камунізма, яна перайшла на выкарыстаньне ўжо абкатанага ЗША спосабу пабудаваньня імперый новага тыпу. І на сёньняшні дзень выразна бачна як Расея імкнецца праз энэргетычныя рэсурсы падпарадкаваць сабе эканомікі сваіх суседзяў. Плюс да таго ў Расеі ёсьць добры бонус у выглядзе панаваньня над суседзямі на працягу 18-20 стст., падчас якога Расея пасьпела асіміляваць шматлікія мясцовыя этнасы на заваяваных тэрыторыях, у выніку чаго многія зь іх ужо зьніклі. А ў суседніх дзяржавах Расея пасьпела многа дзе укараніць сваю культуру. Не паўсюль гэта атрымалася пасьпяхова, але ў выпадку Беларусі вынікі ёсьць.

Падчас упартых намаганьняў, на працягу стагодзьдзяў палітычна і эканамічна інкарпараваць нашу краіну, наш усходні сусед здолеў амаль цалкам насадзіць нам сваю мову і моцна зьмяніў наш сьветапогляд, з-за чаго большасьць мясцовага насельніцтва часта атаясамліваюць сябе з этнічна, гістарычна і культурна чужымі для нас расейцамі. А такая ментальная метамарфоза можа прывесьці да таго, што мы, зусім нядаўна стаўшы самастойнымі, зноў можам трапіць у поўную залежнасьць да нашага ўсходняга суседа. Толькі на гэты раз, з трансфармаванай народнай ментальнасьцю, ужо без супраціўленьня. Да чаго гэта можа прывесьці нас у будучыні? Мы можам падзяліць лёс раней заваяваных і асіміляваных Расеяй народаў – існуючы некаторы час этнічна беларусамі, адначасова ментальна поўнасьцю ператварыцца ў расейцаў. Вобразна кажучы, мы будзем некаторы час як этнас-"франкенштэйн" – фізічнае цела ёсьць, жыве, а душы няма. Але толькі некаторы час, бо паступова ў вялізным імперскім этнічным "плавільным катле" і этнічная самаідэнтычнасьць растварыцца сярод вялікай колькасьці такіх жа самых асіміляваных "рускіх" этнасаў. І тады можна будзе з поўнай упэўненасьцю канстатаваць сьмерць нашага народу, і духоўную, і фізічную.

І вось менавіта ў такі сьмяротна небясьпечны момант можа праявіцца ў народзе інстынкт самазахаваньня, як і ў любым жывым стварэньні, якое змагаецца за сваё жыцьцё. Зразумела, што ў этнасе інстынкт самазахаваньня выглядае інакш, чым у звычайнага чалавека. У чалавека – гэта выпрацоўка вялікай колькасьці адрэналіну. У народа – хуткае распаўсюджваньне нацыяналізма. З'явы розныя, але іх аб'ядноўвае адно – фізіялагічны інстынкт самазахаваньня свайго жыцьця. Адрозьніваецца і механізм дзеяньня. У чалавека пры ўзьдзеяньні адрэналіну імкліва павышаюцца ўсе дадзеныя яму прыродай фізіялагічныя магчымасьці, якія на працягу жыцьця стрымліваюцца яго падсьвядомасьцю, каб не перагружаць арганізм чалавека. Але пры сьмяротнай небяспецы, пры ўзьдзеяньні адрэналіну ўсе патэнцыйныя здольнасьці чалавека вызваляюцца з пад кантролю падсьвядомасьці і чалавек можа вырабляць такія рэчы, якія ў нармальным стане ніколі ня здолеў бы зрабіць. (*друкуецца ў аўтарскай рэдакцыі*)

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КУРСАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І КРАЯЗНАЎСТВА

5 верасня ў памяшканні пастаўскай дзіцячай бібліятэкі прайшла прэзентацыя



курсаў беларускай мовы і гісторыі Пастаўшчыны, якія ладзіць раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы разам з мясцовымі краязнаўцамі. На сустрэчу сабралася больш дваццаці чалавек, пераважна настаўнікі, студэнты, пенсіянеры.




Адкрыла прэзентацыю намесніца старшыні раённай суполкі ТБМ Людміла Сяменас. Яна паведаміла пра мэты і задачы курсаў, іх арганізацыю, бліжэйшыя тэмы сустрэч, прадставіла лектараў. Паводле яе слоў, заняткі плануецца ладзіць штотыднёва па чацвяргах у 18 гадзін: першы “урок” – па беларускай мове, другі – па краязнаўстве раёна. Лектарамі моўных штудый пагадзіліся быць настаўніцы беларускай мовы Тамара Захарэвіч (СШ №2), Аліна Латыш (СШ №3), Ніна Субач (гімназія). Пра родны край будуць распавядаць вядомыя краязнаўцы: настаўнік геаграфіі пастаўскай гімназіі Ігар Пракаповіч, навуковы супрацоўнік пастаўскага краязнаўчага музея Вадзім Шышко, настаўніца гісторыі СШ № 4 Тамара Храпавіцкая. На сустрэчы плануецца запрашаць і краязнаўцаў з іншых вёсак і мястэчак Пастаўшчыны: Алеся Гарбуля з Лынтупаў, Мікалая Арэха з Гуты, Франца Хоміча з Дунілавічаў, Яську Драўніцкага з Камарова.

На адкрыцці курсаў з грунтоўнай мультымедыйнай прэзентацыяй “Краязнаўцы і краязнаўчыя выданні Пастаўшчыны”, якая падрыхтавана ў рэчышчы агульнанацыянальнай кампаніі “Зробім лепш-2013”, выступіў Ігар Пракаповіч. Некаторыя аўтары краязнаўчых кніг, пра якія ён расказваў, знаходзіліся ў зале сярод прысутных.









Прэзентацыю па змесце гістарычнага блоку курсаў прапанаваў слухачам Вадзім Шышко. З прамовай і прапановамі талакой ўпарадкаваць могілкі ў Канябічах, дзе пахаваны ўладальнікі Каралінова, прадстаўнікі творчай сям'і Ромэраў, выступіў мастак Алесь Цыркуноў. Думкамі пра сваё бачанне мовазнаўчага блока курсаў падзяліліся Аліна Латыш і Тамара Захарэвіч. Наогул, уся прэзентацыя прайшла ў прыемнай сяброўскай атмасферы. Аздаблялі яе і стваралі ўрачысты настрой лірычныя песні ў выкананні чароўнага голаса Пастаўшчыны - Людмілы Логінавай.

Наталля Пракаповіч

## КРАЯЗНАЎЧАЯ АЎТАВАНДРОЎКА

У межах агульнанацыянальнай кампаніі "Зробім лепш 2013" краязнаўцы і сябры пастаўскай суполкі Таварыства беларускай мовы 20 верасня здзейснілі аўтавандроўку ў заходнюю частку Пастаўшчыны на Лынтупшчыну для таго, каб сустрэцца з мясцовымі жыхарамі – старажыламі і краязнаўцамі, і сабраць матэрыялы па гісторыі і культуры знікаючых вёсак і хутароў. Удзельнікі паездкі пабывалі ў вёсцы Палессе, дзе наведалі мясцовую школу. Там





адбылася сустрэча з настаўнікамі і вучнямі, падчас якой вядомы краязнаўца і пісьменнік І. Пракаповіч паказаў мультымедыйную прэзентацыю “Краязнаўцы і краязнаўчыя выданні Пастаўшчыны”, супрацоўнік пастаўскага краязнаўчага музея В. Шышко расказаў пра кнігу “1812. Вайна на Пастаўшчыне” і пра новыя музейныя экспазіцыі ў палацы Тызенгаўзаў, а



супрацоўніца пастаўскай дзіцячай бібліятэкі Л. Сяменас пазнаёміла слухачоў з тымі творчымі праектамі, якія за апошні час рэалізавала пастаўская суполка ТБМ, у прыватнасці, фільмы пра Я. Купалу і М. Багдановіча, пра курсы беларускай мовы і гісторыі краю, пра друкаваныя выданні. Дарэчы, школа атрымала ў падарунак некалькі краязнаўчых кніг і згаданыя фільмы. На сустрэчы прысутнічаў былы дырэктар гэтай школы А. Рудаў, які з’яўляецца аўтарам рукапіснага апісання вёскі Палессе і ваколіц. Настаўнікі далі магчымасць пакарыстацца цікавымі матэрыяламі з гісторыі школьнага жыцця: фоталетапісам Апіламскай школы і альбомам, які рыхтавалі школы гэтага рэгіёна Пастаўшчыны да 50-годдзя савецкай улады.



Добрым краязнаўчым набыткам стала наведванне Апідамскай стараверскай царквы, у час якога ўдзельнікі вандроўкі з дапамогай мясцовых жыхароў змаглі агледзець не толькі знешнюю аздобу, але і спецыфічнае ўнутранае ўбранне храма.

Апоўдні адбылася яшчэ адна сустрэча, на гэты раз - з настаўнікамі і вучнямі Лынтупскай сярэдняй школы. Прысутнічалі на ёй пераважна школьнікі сярэдніх класаў,



бо старшакласнікі “паехалі на бульбу”. Яны ўважліва глядзелі і слухалі прэзентацыю пра краязнаўцаў і краязнаўчыя выданні, відэаролікі пра беларускую мову, выступленні гасцей пра неабходнасць любіць, вывучаць і шанаваць родную мову, родны край.

У час вандроўкі было даволі многа цікавых размоў з мясцовымі жыхарамі, удалося агледзіць і сфатаграфаваць шэраг адметных помнікаў гісторыі і культуры.

***Юлія Пракаповіч, удзельніца вандроўкі***

## СУСТЭЧЫ Ў АНДРОНАХ І НАВАДРУЦКУ

27 верасня ў межах агульнанацыянальнай кампаніі “Зробім лепш-2013” група краязнаўцаў і сяброў раённай суполкі Таварыства беларускай мовы здзейсніла паездку ў паўночную і ўсходнюю частку Пастаўшчыны. Мэтай яе, як і тыдзень таму, быў збор матэрыялаў па гісторыі і культуры роднага краю, сустрэчы і выступленні перад настаўнікамі і школьнікамі.



Спачатку шлях пралягаў у вёску Андроны. Школа там невялікая тыпавая, але вельмі акуратная і дагледжаная, што сведчыць пра рупнасць калектыва настаўнікаў і вучняў. Сустрэлі гасцей вельмі гасцінна, паказалі школу, невялічкі краязнаўча-этнаграфічны музей, паабяцалі перадаць на карыстанне матэрыялы школьнага летапісу. Удзельнікі паездкі выступілі перад настаўнікамі і вучнямі з прэзентацыяй пра краязнаўцаў і краязнаўчыя выданні Пастаўшчыны, расказалі пра дзейнасць ТБМ у Паставах і новыя экспазіцыі пастаўскага краязнаўчага музея, паказалі некалькі відэаролікаў, якія пакінулі ў падарунак школе. Сустрэча прайшла ў цёплай сяброўскай атмасферы.

Такі ж настрой і ўзаемаадносіны панавалі ў час наведвання Навадруцкай школы. Дзеці і настаўнікі з цікавасцю паслухалі выступленні краязнаўцаў, паглядзелі прэзентацыю і відэаматэрыялы. Пасля выступлення гасцей пачаставалі смачнай гарбатай, а потым у іх была магчымасць пазнаёміцца з экспазіцыяй школьнага музея. Удзельнікі вандроўкі былі ўражаны багаццем і разнастайнасцю экспанатаў, значная частка якіх рэдкія, а то і ўнікальныя. Таму трэба сказаць словы вялікай удзячнасці педагагічнаму калектыву і найперш, настаўніцы гісторыі Святлане Латыш за стварэнне такога выдатнага музея.

Пакінуўшы Навадруцк удзльнікі паездкі яшчэ павандравалі па ўсходу Пастаўшчыны, дабраўшыся аж да Глыбокага.

***Юлія Пракаповіч***






**Шыпшына**
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*